Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 370.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 27 сакавіка 1998 г. № 31 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Лукашэнка прымярае бесказырку

**Беларусь будзе апекавацца ваенным караблём і падводнай лодкай Паўночнага флоту Расіі, — заявіў у сераду Лукашэнка падчас сустрэчы з маракамі атамнага ракетнага крэйсера «Пётр Вялікі» на ваенна-марской базе ў Севераморску непадалёк ад Мурманска.**

Беларускі прэзідэнт збіраецца аднавіць старую савецкую традыцыю, калі канкрэтныя рэспублікі, рэгіёны ці працоўныя калектывы бралі шэфства над баявымі караблямі розных флотаў. Першым знакам такой апекі стаў тэлевізар «Віцязь», перададзены Рыгоравічам у падарунак камандзе "Пятра Вялікага». Удзячныя маракі ў адказ узнагародзілі Лукашэнку цяльняшкай і бесказыркай.

Як нам паведамілі ў прэзідэнцкай адміністрацыі, пытанне шэфства пакуль «знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі», і які канкрэтна карабель будзе аддадзены пад беларускую апеку, стане вядома пасля кансультацыяў паміж адміністрацыяй Лукашэнкі і кіраўніцтвам Мурманскай вобласці, а таксама камандаваннем Паўночнага флоту. Не ведаюць пакуль прэзідэнцкія чыноўнікі і колькі будзе каштаваць гэтае шэфства, ці прадугледжвае яно фінансавую дапамогу маракам.

Нагадаем, што гэта ўжо другі выпадак праяўлення зацікаўленасці Лукашэнкам расійскімі караблямі. Як паведамляла газета «Аргументы и факты», падчас свайго лютаўскага візіту ва Уладзівасток Рыгоравіч выказаў шкадаванне, што былы флагман Ціхаакіянскага флоту, авіяносец «Мінск» прададзены на металалом у Паўднёвую Карэю. Калі карабель з такою назваю зноў з'явіцца ў расійскім флоце, Лукашэнка гатовы ўзяць яго на ўтрыманне Беларусі. На тэму супрацоўніцтва ў ваенна-марской галіне Лукашэнка нават збіраецца весці перамовы з расійскім прэзідэнтам Барысам Ельцыным.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Будзе помнік вялікаму канцлеру

**На Дзень Волі, 25 сакавіка, гарадскія ўлады Слоніма прынялі ўхвальнае рашэнне — дазволілі ўстанавіць помнік знакамітаму канцлеру Вялікага княства Літоўскага Льву Сапегу.**

З такой прапановай звярнулася ў гарвыканкам ініцыятыўная група гараджан на чале са старшынёй прафкама мясцовай бальніцы Таццянай Кажанковай. Для будучага помніка Льву Сапегу, які з 1586 года быў слонімскім старастам, пакуль яшчэ не вызначаная пляцоўка. Фундатарам праекта выступіў фонд Льва Сапегі. Мяркуецца, што аўтарам помніка будзе скульптар Іван Міско.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Падгайны «адкручвае» цэны

**Старшыня Дзяржкамітэта па друку Міхаіл Падгайны таксама ўзяўся «адкручваць» цэны.**

18 сакавіка ён разаслаў адпаведнае распараджэнне ва ўсе структуры свайго ведамства, каб «не дапусціць дэстабілізацыі спажывецкага рынку і неабгрунтаванага росту цэнаў». Усе прадпрыемствы Дзяржкамдруку цяпер не маюць права прымаць новыя партыі прадукцыі — гэта значыць газетаў, часопісаў, кніжак, календароў і да т.п. — па цэнах, якія перавышаюць узровень 1 сакавіка. Аднолькавыя кошты і на паслугі прадпрыемстваў камітэта. Цяпер некаторыя перыядычныя выданні вымушаныя прадаваць сваю прадукцыю па штучна заніжаных коштах. Напрыклад, рэдакцыі «Брэсцкага кур'ера» не дазволілі падняць кошт газеты з пяці да сямі тысячаў рублёў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Справа Мірона жыве

**Свята бывае не тады, калі яго дазваляюць улады. Свята — гэта калі святкуюць людзі.**

Гарадскія ўлады Бабруйска забаранілі правядзенне мітынгу з нагоды юбілею БНР. Старшыня гарвыканкама Уладзімір Раманоўскі заявіў, што такога свята ён «не ведае». Аднак гараджане нагадалі пра юбілей, вывесіўшы на цэнтральнай вуліцы Бабруйска больш за 20 бел-чырвона-белых сцягоў.

Да 10 гадзінаў раніцы іх «ліквідоўвалі» з дапамогай аварыйнай машыны. Толькі на ўездзе ў горад з боку сталіцы бел-чырвона-белы сцяг застаўся лунаць на 25-метровым маяку, на які «ліквідатары» не асмеліліся залезці.

У мінскім мікраёне Сухарава таксама знайшліся паслядоўнікі легендарнага Мірона, які вывешваў сцягі ў Лёзна на высакавольтных лініях і воданапорных вежах. На даху самага высокага дома, які знаходзіцца на скрыжаванні вуліцаў, сцяг пратрымаўся да ўчарашняга дня.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

*Сёння чакаецца прысуд*

# Вадзім Кабанчук можа стаць «хімікам»



Сёння ў Мінскім гарадскім судзе павінны абвясціць прысуд актывісту Маладога Фронту Вадзіму Кабанчуку. Судовая калегія ў складзе суддзі Сушко і народных засядальнікаў Рогач і Бабенка вырашыць лёс 23-гадовага юнака, якому інкрымінуюць супраціўленне міліцыі і актыўны ўдзел у несанкцыянаваных палітычных дэманстрацыях вясной мінулага года.

Тры дні працэсу маглі пераканаць суд у тым, што былы выпускнік аўтатранспартнага факультэта беларускай Політэхнічнай акадэміі парушаў закон. Гэта вынікала з паказанняў сведкаў і відэазапісу падзеяў 10 і 23 сакавіка. З большага не адмаўляўся ад сваёй віны і Кабанчук. Аднак у апошнім слове ён папрасіў суд улічыць, што пэўную частку адказнасці за інцыдэнты павінна несці і міліцыя. Актывіст Маладога Фронту сцвярджаў, што ён не ўдзельнічаў бы ў бойках з міліцыяй, калі б тая не правакавала дэманстрантаў на супраціўленне. Амонаўцы сілай разганялі санкцыянаваныя пікеты, неадназразова хапалі і збівалі дэманстрантаў проста на тратуарах, а міліцэйскія відэаапаратары здымалі гэтыя бойкі, каб потым лягчэй было судзіць людзей, сцвярджаў Кабанчук.

І ўсё ж напрыканцы ён заявіў, што гатовы панесці любое пакаранне суда. Якім яно будзе? Паводле Крымінальнага кодэкса, злачынствы, у якіх абвінавачваецца Кабанчук, могуць пацягнуць зняволенне ў калоніі тэрмінам да 5 гадоў. Аднак, не выключана, што пакаранне будзе больш мяккім. Гэтая надзея з'явілася пасля выступу пракурора Сяргея Целяжэвіча, які палічыў магчымым (спаслаўшыся на станоўчыя характарыстыкі Кабанчука і ягонае прызнанне сваёй віны) абмежавацца ўмоўным зняволеннем з абавязковым прыцягненнем да прымусовай працы (так званая «хімія»). Тэрмін «хіміі», прапанаваны пракурорам Кабанчуку, — 3 гады.

Назіральнікі адзначаюць, аднак, што ў практыцы пакарання беларускіх апазіцыянераў у апошнія часы неадназразова здаралася, што суды выносілі прысуды больш жорсткія, чым прасілі пракуроры. Так было ў справах Шарамета з Завадскім і Лабковіча з Шыдлоўскім. Ці падзеліць Вадзім Кабанчук лёс прысуджанага да турмы актывіста Маладога Фронту Аляксея Шыдлоўскага, стане вядома сёння.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Антановіч і Заламай збіраюцца ў вандроўку

28 сакавіка міністр замежных справаў Іван Антановіч збіраецца ў Пакістан. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства працягвае прабіваць акно на ўсход. Ён мае намер сустрэцца з прэзідэнтам, прэм'-ерам, спікерам парламента і міністрам замежных справаў гэтай краіны. І.Антановіч плануе «актывізаваць» беларуска-пакістанскае супрацоўніцтва.

Арыгінальным чынам збіраецца навесці парадак сярод кіраўнікоў правінцыйнай вертыкалі губернатар Брэсцкай вобласці Уладзімір Заламай. Губернатар мае намер наведаць абсалютна ўсе населеныя пункты вобласці, каб, па яго словах, «привести в чувство» мясцовае кіраўніцтва. Аб гэтым праекце Заламай паведаміў падчас абласной гаспадарчай нарады. Ён з гонарам адзначыў, што да яго ніхто нічога падобнага ў гісторыі не здзяйсняў. На тэрыторыі Брэсцкай вобласці знаходзіцца больш як 2 тысячы 200 населеных пунктаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**
**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Новыя акцыі за старыя чэкі

*Урад вырашыў надаць новы імпульс чэкавай прыватызацыі*

Зацверджаны чарговы спіс прадпрыемстваў, акцыі якіх будуць абменьвацца **на прыватызацыйныя чэкі ў аддзяленнях Беларусбанка.** Абмяняць чэкі на гэтыя акцыі будзе можна з 1 красавіка.

Спачатку планавалася, што акцыяў выставяць на 20 млн. чэкаў, у канчатковым варыянце засталося на 11 млн. Эксперты лічаць, што наступны такі спіс калі і з'явіцца, дык не хутка. Таму тым, у каго засталіся нявыкарыстаныя чэкі "Маёмасць", варта пасьпяшацца.

Аднак на хуткі прыбытак ад акцыяў спадзявацца няма чаго. Большасць прадпрыемстваў знаходзіцца ў цяжкім фінансавым стане. Але ў будучыні некаторыя прадпрыемствы маюць шанец стаць прыбытковымі і прынесці пэўныя дывідэнды ўладальніку акцыяў. З найбольш прывабных сектараў эканомікі эксперты адзначаюць дрэвапераапрацоўчую прамысловасць.

Трэба мець на ўвазе, што акцыі некаторых прадпрыемстваў могуць атрымаць за чэкі толькі жыхары тых раёнаў ці абласцей, дзе знаходзіцца прадпрыемства. Гэты парадак вы можаце ўдакладніць у аддзяленні банка. Толькі жыхарам раёнаў прадаюцца акцыі Віцебскдрэва, Віцебсклеса; жыхарам вобласці даступныя акцыі Полацклеса, усім беларусам — Мазырдрэва і Гомельдрэва.

Маюць шанцы паправіць у будучым сваё становішча таксама камбікормавыя заводы, якія выставілі на акцыяванне, — Бярозаўскі, Драгічынскі, Жлобінскі, Смаргонскі, Хадасоўскі.



Работніцы хлебазаводаў спадзяюцца, што пасля прыватызацыі на прадпрыемствах стане менш цяжкой ручной працы.

Даволі прывабнымі лічацца і прадпрыемствы лёгкай і харчовай прамысловасці — Жабінкаўскі цукровы завод, кандытарская фабрыка «Чырвоны мазыранін», Лідахлебапрадукт, вытворца макаронаў «Барымак», Слуцкі хлебзавод, Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў. Цікавасць уяўляе і вядомая добрушская папяровая фабрыка «Герой працы», акцыі якой распаўсюджваюцца для ўсіх грамадзянаў, а таксама «Лідсельмаш», на які, па некаторых звестках, зноў звяртаюць увагу замежныя інвестары.

**Алесь САДОЎСКІ**

**НАВІНЫ будуць прыходзіць да вас па новым часе! Дзяржкамітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі нагадвае, што 29 сакавіка ў 2 гадзіны ночы краіна пераходзіць на летні час. Стрэлкі гадзіннікаў неабходна перавесці на адну гадзіну наперад.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Па шляху да беларускай мэты

**Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчалася ў будынку сённяшняга Купалаўскага тэатра. 80-годдзе абвяшчэння грамадскасць святкавала ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната.**

Адкрываючы ўрачыстый сход, народны пісьменнік Васіль Быкаў назваў дзень 25 сакавіка 1918 года *«святам-сімвалам, які будзе святкавацца вечна»*. Усе народы Еўропы да канца XX стагоддзя, па словах Быкава, вырашылі свае нацыянальныя мэты; адзіным, хто не вызначыўся, застаўся толькі народ Беларусі. *«Нашая нацыя хворая, глухая і нямая»*, — з болем гаварыў Быкаў, але прыйдзе час — і беларуская мэта таксама ажыццявіцца. *«Для ідэі не страшная зброя, ёй не трэба ні хлеб, ні бульба, адно трэба — Бог. А Бог не пакідаў Беларусь нават у горшыя часіны яе гісторыі. Беларусь жыве і будзе жыць. Жыве Беларусь!»* — завяршыў свой выступ Васіль Быкаў.

Народны паэт Ніл Гілевіч у паэтычнай форме падтрымаў ідэю аб'яднання беларусаў вакол падзеі пачатку вясны 1918 года: *«...Жыццё памкне свабодна, як рака, і першым святам Бацькаўшчыны стане Дзень 25 сакавіка»*, — пад гром авацыяў абвясціў Ніл Гілевіч. БНР стаяла ў кроку ад дзяржавы ў поўным сэнсе гэтага слова, гаварыў у дакладзе в.а.старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. У 1918 годзе першы незалежны беларускі ўрад здолеў атрымаць прызнанне краінаў Балтыі і Украіны, паспеў пабудаваць сістэму адукацыі, абвесціў эканамічныя і палітычныя свабоды і пачаў іх забяспечваць. Але супрацьдзеянні *«маскоўскіх бальшавікоў і польскіх шавіністаў не дазволілі давесці справу дзяржаўнага будаўніцтва да канца»*, сцвярджаў выступоўца. Па словах Лявона Баршчэўскага, змаганне за сапраўды незалежную Беларусь працягваецца і цяпер, калі на палітычнай карце свету ўжо існуе Рэспубліка Беларусь і перамога ў гэтай барацьбе абавязкова будзе за народам Беларусі.

Святкаванне ў палацы культуры завершылася вельмі натхнёным, унушальным па самаадданасці артыстаў, канцэртам.

## Дзень Волі ля помніка пакутнікам

Ёсць у Маладзечне помнік для нашай рэчы, на жаль, не звычайны. Гэта памятны знак пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі, устаноўлены на Цэнтральнай плошчы яшчэ ў той час, калі мэрам горада быў Генадзь Карпенка. 25 сакавіка мясцовая суполка БНФ збіралася наладзіць ля гэтага знака мітынг з нагоды Дня Волі.

Гарвыканкам, аднак, гэтага не дазволіў, а перанёс мерапрыемства ў непрыдатнае месца. Людзі усё ж сабраліся менавіта ля памятнага знака: ўсклалі кветкі, пачыталі вершы, запалілі свечкі, ушанавалі памяць пакутнікаў. Інцыдэнтаў з уладамі не было — міліцыянты цікавіліся, што тут адбываецца, але ў выніку не палічылі сход мітынгам. Нават дзіўна.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Яшчэ адной зонай больш

**У Беларусі хуткімі тэмпамі распаўсюджваецца мода на свабодныя эканамічныя зоны. Канкурэнцыя рэгіёнаў за прыцягненне да сябе такім чынам замежных інвестараў павінна ўзмацніцца: распрацаваны чарговы праект, які прадугледжвае стварэнне спецыяльнай эканамічнай зоны «Гроднаінвест» тэрмінам на 50 гадоў.**

Гэта СЭЗ стане ўжо чацвёртай у Беларусі. Раней былі створаныя СЭЗ у Брэсце, Мінску, а таксама ў Гомелі. Як і першыя тры, СЭЗ «Гроднаінвест» ствараецца перш за ўсё для прыцягнення замежных інвестараў. І дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму становішчу Гродна, а таксама наяўнасці добрай інфраструктуры (перш за ўсё транспартнай) «Гроднаінвест» мае вялікія шанцы стварыць сур'ёзную канкурэнцыю Брэсцкай СЭЗ (на сённяшні дзень самай развітай).

Плануецца, што СЭЗ «Гроднаінвест» будзе складацца з двух сектараў — паўночнага прамысловага вузла «Грандзічы» і паўднёвага шматпрофільнага раёна «Калбасіна». Першы сектар уключае 6 прадпрыемстваў — завод радыётэхнічнай апаратуры, аўтамабільных агрэгатаў, «БелТАПАЗ», камбінат будаўнічых матэрыялаў, прадзільна-ніткачнае і тонкасуконнае аб'яднанні. Другі сектар мае толькі камунікацыі: гэта незабудаваная частка горада.

Замежных інвестараў прывабліваюць тым, што фірмы, зарэгістраваныя ў СЭЗ, першыя 5 гадоў будуць плаціць толькі 50% ад падатку на дабаўленую вартасць і палову падатку на даходы. Некаторыя, па прапанове адміністрацыі, нават могуць зусім вызваляцца ад уплаты падатку на прыбытак і даходы. І, што асабліва істотна, рэзідэнты будуць вызваленыя ад абавязковага продажу валюты.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Чырвоны Крыж прымушаюць плаціць

**З нечаканымі цяжкасцямі сутыкнулася магілёўскае аддзяленне Беларускага Чырвонага Крыжа.**

5 гадоў аддзяленне выкарыстоўвае мікрааўтобус «Мерседэс», які належаў Міжнароднаму Чырвонаму Крыжу. На аўтобусе дзяцей з забруджаных «чарнобыльскіх» раёнаў вазілі на медычнае абследаванне, дастаўлялі лекі і прыборы ў вёскі. На аўтобусе таксама развозілі адзенне і харчы малазабяспечаным сем'ям і інвалідам.

Але нядаўна міжнародная федэрацыя вырашыла перадаць аўтобусік ва ўласнасць магілёўцам. І тут пачалося: мытня адмовілася афармляць машыну як гуманітарную дапамогу. У выніку магілёўскі Чырвоны Крыж павінен заплаціць амаль 4.000 долараў. Такіх грошай у аддзялення няма, і тыя, кім апякуецца Чырвоны Крыж, могуць застацца без патрэбнай дапамогі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Правы маленькага чалавека

**Мы прызвычаіліся, што паняцце «правы чалавека» выклікае перш за ўсё асацыяцыі з палітычнай сфераю. Але праблемы з правамі чалавека ў нашай краіне зусім не зводзяцца да свабоды слова ці сходаў. У канцы мінулага тыдня Беларускі Хельсінкскі камітэт правёў міжнародны семінар «Правы дзіцяці: праблемы гвалту над дзецьмі».**

Арганізатары ставілі мэту ўсебакова абмеркаваць гэтую праблему — таму на семінары разглядаліся пытанні сацыяльнай работы з дзецьмі і сем'ямі, здароўя дзяцей, злачыннасці непаўналетніх і г.д. Дакладчыкамі былі як беларускія, так і замежныя спецыялісты — педагогі, медыкі, юрысты, праваабаронцы. Сапраўдную цікавасць да семінара праявілі многія дзяржаўныя ўстановы Беларусі — ад міністэрстваў да выхаваўча-працоўных калоніяў.

Калі ішла гаворка пра злачыннасць непаўналетніх, выявілася наступнае: у адрозненне ад Беларусі, дзе максімальны тэрмін пакарання для непаўналетніх складае 10 гадоў — на Захадзе маюцца прэцэдэнты, калі за забойства прыгаворвалі 12-гадовых хлапчукоў ажно да пажыццёвага зняволення (зрэшты, такі тэрмін рэальна не вытрымліваўся). Але ўмовы ўтрымання на Захадзе непараўнальна больш гуманныя і спрыяльныя для сацыяльнай адаптацыі.

У міністэрстве юстыцыі Галандыі ёсць спецыяльная структура — аддзел па дапамозе дзецям. Выканаўчы дырэктар гэтага аддзела Хэнк Крой засяродзіў сваю ўвагу на практыцы, прынятай у ягонай краіне: рабіць акцэнт не на пакараннях, а на прадухіленні злачынстваў непаўналетніх. Методыка прадухілення вельмі разгалінаваная. Рэлігійныя арганізацыі і сацыяльныя службы клапоцяцца пра дзяцей з бедных сем'яў: дапамагаюць ім матэрыяльна, знаходзяць магчымасці падзарабіць і, калі трэба, жыллё. Ёсць спецыяльная сістэма, у якую ўваходзяць псіхолагі ды педагогі і якая займаецца «цяжкімі» падлеткамі.

Прадстаўнік БХК Валерый Філіпаў адзначыў, што ў Беларусі распаўсюджанай практыкай з'яўляецца *«збіццё і прыніжэнне непаўналетніх пры затрыманні і падчас папярэдняга следства»*. Ён падкрэсліў, што падлеткаў часта *«пазбаўляюць магчымасці бачыцца з роднымі»* і што *«права на адукацыю знаходзіцца ў распараджэнні следчага»* (у якасці прыкладу парушэння гэтага права Філіпаў прывёў прыклад непаўналетняга палітвязня Вадзіма Лабковіча).

Багуміл Шмід з Чэхіі праблему злачыннасці не закранаў. Тэма яго даклада звязаная з ягонай пасадаю: дырэктар дома для разумова адсталых дзяцей. Стан спраў у гэтай галіне, лічыць сп.Шмід, наўпрост залежыць ад агульнай сітуацыі ў краіне. *«Хаця камуністы шмат гаварылі пра гуманізм, але на практыцы ўсё было накіравана супраць гуманізму. Пакольки разумова адсталыя людзі непрадуктыўныя для дзяржавы — на іх звярталі мала ўвагі»*. Цяпер, па словах Шміда, становішча паступова змяняецца: дзяржава істотна павялічыла фінансаванне, пачалі скарыстоўваць новыя метады адукацыі (у патрэбных выпадках школьная адукацыя можа працягвацца да 21-гадовага ўзросту), дзейнічаюць арганізацыі па дапамозе разумова адсталым людзям і клубы для іх, а бацькоў забяспечваюць інструкцыямі, як абыходзіцца з такімі дзецьмі.

Прадстаўніца Еўрапейскага суда па правах чалавека Мансарат Мас заявіла: *«Усе дзеці павінны мець аднолькавыя правы, незалежна ад эканамічнага стану сям'і, ад таго, ці народжаныя яны ў шлюбе і ці жывуць яны з бацькамі»*. Уладзімір Вайсман з Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыі падкрэсліў, што *«дзеці, як і ўсе людзі, таксама маюць правы — і абараняць гэтыя правы тым больш важна, што самі дзеці адстойваць іх пакуль не могуць»*.

Удзельнікі семінара ў выніку работы прынялі шэраг рэкамендацыяў. Гэтыя рэкамендацыі тычыліся як агульных прынцыпаў (*«трэба думаць не пра ўсіх дзяцей кучай, а пра кожнага пасобку»*), так і больш канкрэтных рэчаў. Напрыклад, неабходным прызнана *«спрыянне дзейнасці недзяржаўных арганізацыяў, якія працуюць з дзецьмі»*, *«стварэнне цэнтра рэабілітацыі ахвяраў сексуальнага гвалту»*, *«уводзенне ў школьную праграму асноваў юрыдычных ведаў»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



*Хто падумае пра гэтых «дзяцей вуліцы»?*

# Бабруйскае спіртовае рэха

**«Спіртовая» справа вакол Бабруйскага гідролізнага завода і звязаныя з ёю арышты перакрочыла межы Магілёўскай вобласці.**

Як паведамляе КДБ, па гэтай справе арыштаваныя дырэктар спіртовага завода Любанскага раёна Мінскай вобласці, а таксама былы прэзідэнт алімпійскага фонду Гродна і прадстаўнік адной з нямецкіх фірмаў.

Паводле падлікаў следства, у выніку злоўжыванняў арыштаванага дырэктара спіртзавода дзяржава страціла амаль паўмільярда рублёў. Акрамя таго, яго абвінавачваюць у незаконным захоўванні боепрыпасаў — аўтамат Калашнікава, дробнакаліберная зброя, вялікая колькасць патронаў. Двум астатнім арыштантам інкрымінуюць незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

**Іван ЗАСАДА**

ПОКАЗУХА

# На хоккей – по спискам, «под конвоем»

В Минском дворце спорта проходит финальный турнир по хоккею возрожденного некогда весьма популярного и массового соревнования «Золотая шайба» для детей до 14 лет. В турнире участвуют лучшие команды областей и столицы. Такое можно было бы только приветствовать, если бы соревнованиям детей кем-то весьма разумным и рассчетливым не была бы придана политическая окраска.

Привкус идеологии ощущается уже в названии "Турнир «Золотая шайба» на призы первого президента Республики Беларусь Александра Лукашенко». Не забудьте дети и их родители, кто вас облагодетельствовал! Тот самый Александр Григорьевич, который две недели со своей многочисленной челядью (кроме охраны, там ведь были и Иван Иваныч, и «резонаторы» Зимовский с Хрущевой, и др.) наслаждался олимпийским зрелищем в Нагано, а теперь, видимо, решил внедрить в жизнь японский опыт, переиначив его на белорусский лад.

Чтобы приобщиться к спорту смогли не только хоккеисты (их-то около 100), но и другие дети, директора минских школ получили строгую устную директиву: каждый соревновательный день направлять во Дворец спорта группу из 12-20 школьников с классными руководителями. В школах составлены графики, где четко расписано: кто, когда, куда и сколько. А чтобы недобросовестные учителя не вздумали увильнуть или схалтурить (скажем, привести 2-3 детей вместо положенной по квоте дюжины), во Дворце спорта они должны отметиться у «государственного» человека.

Правильно: «Социализм — это прежде всего учет и контроль». Вот почему трибуны Дворца каждый день забиты битком.

Нет слов, хоккей — это зрелище. Но на зрелище не водят под конвоем. Впрочем, белорусская школа стремительно возвращается к самым худшим традициям советского времени: тотальные проверки, бумажная отчетность, жесткая идеологическая направленность. А теперь реанимировано и «конвойное воспитание».

Что ж, «за детство счастливое наше спасибо, родная страна!»

**Михаил ПОТАПОВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Сучасныя «філаматы»

Ужо амаль год у Беларусі дзейнічае Народны універсітэт, арганізаваны цэнтрам «Беларуская перспектыва». Вучацца ў Народным універсітэце больш за 300 чалавек, заняткі праходзяць па выхадных днях ва ўсіх абласных цэнтрах і ў Салігорску. Якраз сёння, 27 сакавіка, у Гродне адбудзецца першы выпуск слухачоў, яны атрымаюць адмысловыя дыпломы «філаматаў» — так яшчэ ў мінулым стагоддзі называлі сябе аматары ведаў, якія згуртаваліся ў Вільні ў гуртку і дзейнічалі да разгрому царскімі ўладамі. Нядаўна прэзідэнт Лукашэнка звярнуў увагу на сучасных беларускіх філаматаў. Распавядаючы на пазамінулым тыдні пра «змову» апазіцыі і Захаду, Рыгоравіч узгадаў таксама пра «всевозможные народные университеты», у якіх выкладаюць знаёмыя асобы з апазіцыі. З падачы прэзідэнта мы зацікавіліся Народным універсітэтам і звярнуліся з пытаннямі да аднаго з каардынатараў гэтай праграмы Уладзіміра АНЦУЛЕВІЧА.

**— Гэта праўда, што ваш універсітэт займаецца «падрыўной» дзейнасцю?**

— Праўда тое, што мы стварылі сетку адукацыі людзей і даём ім веды. У праграме універсітэта ёсць абавязковы і дадатковы курсы. Абавязковы — гэта 60 гадзінаў лекцый па эканоміцы, паліталогіі, гісторыі Беларусі і гісторыі культуры нашай краіны. Тры дадатковыя курсы даюць магчымасць слухачам пазнаёміцца з праблематыкай эканамічнага рэфармавання, дзейнасці СМІ і мясцовага самакіравання. Праграму Народнага універсітэта фінансуюць спонсары, у тым ліку фонд Еўразія, які мае дамову з міністэрствам замежных справаў Беларусі. Да нас прыходзяць добраахвотна і займаюцца бясплатна.

**— Гэта як у савецкі час «ленінскія універсітэты мільёнаў»? Вы не баіцеся такога параўнання?**

— Прага людзей да ведаў была заўсёды. Да ўсякіх «ленінскіх універсітэтаў» існавалі гурткі, цэлыя грамадскія арганізацыі, накіраваныя на забеспячэнне попыту на інфармацыю і думку. У дарэвалюцыйнай Маскве, напрыклад, дзейнічалі народныя універсітэты, а ў Вільні яшчэ на пачатку XIX стагоддзя былі створаныя гурткі «філаматаў» — аматараў ведаў. Філаматамі, дарэчы, былі Адам Міцкевіч, Ян Чачот. Гурткі дзейнічалі да 1823 года, потым іх удзельнікі былі рэпрэсаваныя царскімі ўладамі.

**— А якія ў вас складваюцца адносіны з уладамі?**

— Пераважна ўсё залежыць ад кіраўніцтва на мясцовым узроўні. Дагэтуль у нас былі праблемы толькі ў Салігорску, ды яшчэ ў Талачыне. Там адмовілі ў памяшканні для лекцыяў, і тады мясцовыя аматары ведаў сабраліся на хаце ў пенсіянера Анатоля Рылько — былога палітвязня. Заняткі праходзілі «пад аховай» міліцыянтаў і мясцовых чэкістаў, але людзей гэта не запалохала.

**— Хто наведвае Народны універсітэт: толькі актывісты апазіцыі, франтаўцы, ці ёсць і людзі іншых поглядаў?**

— Большасць, канешне, людзі нацыянальна свядомыя, дэмакратычных поглядаў. Але я б не запісваў усіх у франтаўцы ці нават у дэмакраты. Асабліва ў Брэсце і Гродне сярод наведвальнікаў Народнага універсітэта шмат студэнтаў, якіх прываблівае высокі ўзровень нашых лектараў. Студэнты ацанілі тое, што атрымоўваюць у нас аб'ектыўныя веды, а не прапаганду часоў развітога сацыялізму.

**— Калі гэта не сакрэт, назавіце тых, хто ў вас выкладае?**

— Прэзідэнт жа сказаў — «вядомыя асобы з апазіцыі». Эканоміку выкладаюць прафесар Уладзімір Кулажанка, кандыдаты навук Людміла Грязнова, Яраслаў Раманчук. Гэта ўсё вядомыя эканамісты, а кіруе курсам член-карэспандэнт Акадэміі навук Іван Нікітчанка. Паліталогію чытаюць Уладзімір Роўда, Віктар Чарноў, Валерый Карбалевіч, іншыя спецыялісты. Вядомыя гісторыкі Павел Лойка, Валянцін Голубеў, Уладзімір Емяльянчык, Уладзімір Сосна выкладаюць гісторыю Беларусі, а гісторыю беларускай культуры чытае Юрый Хадыка. Для выкладання дадатковых курсаў мы таксама запрасілі самых вядомых у сваёй галіне спецыялістаў, і як вынік — папулярнасць універсітэта расце. Калі звычайна аўдыторыя слухачоў па меры завяршэння курса памяншаецца, то ў нас — наадварот. Мы лічым, што гэта добрая прыкмета.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Горячий март

Психиатры давно заметили: весной у людей «без шарика» в голове и «с пропеллером» ниже спины обычно наступает обострение психических расстройств.

В марте несчастные влюбленные прыгают из окон, разорившиеся банкиры покидают родину и пытаются приглушить свою ностальгию по ней ананасами в шампанском, а Жириновский поливает своих коллег минеральной водой «Ессентуки».

Не минула горькая чаша весенних обострений и нашу синеокую Беларусь. А начиналось все еще в феврале.

Возвращаясь из Нагано, наш президент прорвался-таки в российские регионы, куда, помнится, после определенных событий путь ему был заказан. Попросившись по-маленькому — возложить веночек к памятнику морякам-дальневосточникам, — наш глава государства сделал все по-большому: на Дальнем Востоке и в Сибири встречи с губернаторами, активом, разговоры с народом, реклама белорусского «экономического чуда». С истинным вдохновением наш президент ворвался в такую чуткую и такую желанную ему среду российского электората. Неизвестно, как долго бы это все продолжалось, но пришел сигнал «пора и честь знать» — и ничего не оставалось, как возвращаться домой к неблагодарным минчанам, от которых ничего доброго в свой адрес не услышишь.

То ли от обиды, что не удалось сразу в победном блицкриге дойти до Москвы, то ли в связи с магнитными бурями, которые одолели Жириновского, но из Минска уже на другой день после возвращения неслись раскаты гнева. С неудержимой яростью в своих предпраздничных выступлениях Александр Григорьевич заклеймил злые элиты, не дающие добрым народам СНГ интегрироваться до полного консенсуса, а кто хочет — и до самого, что ни на есть, катарсиса. Пламя в глазах президента Беларуси было настолько натуральным, что, говорят, пожарная охрана Минска объявила повышенную готовность, а в столицах СНГ встревожились.

Вот-вот должна была состояться встреча глав государств Содружества, а находиться в компании охваченного весенним интеграционным синдромом главы белорусского государства было небезопасно. Того и гляди заставит всех проводить референдум о восстановлении СССР, а если что не так — все знают, как он легко переходит в споре к прямым победным действиям.

Попытка обострить отношения между властью и электоратом внутри стран бывшего СССР вызвала неожиданную для руководства Беларуси реакцию. Уже 9 марта на Московской бирже началось обвальное падение курса белорусского рубля. 12 марта в 11 часов была зафиксирована самая жуткая котировка — 64 тысячи рублей за доллар.

А ведь еще 3 марта коммерческий курс был около 45 тысяч; импортеры, знавшие о сельхозкредитах, спокойно закладывали в цену на свой товар 55 тысяч, уверенные, что такой курс установится не раньше середины апреля — и вдруг такой обвал. Естественно, что прибывший из Сирии президент объявил проводимый в магазинах переучет происками Запада, московского жулья и прочих спекулянтов вплоть до тени отца Гамлета.

А тут, как назло, в вечернем телеэфире Чубайс объясняет крах белорусской валюты бездарностью экономической политики Лукашенко. Естественно, рыжий Чубайс и стал основным виновником «диверсии» против белорусского народа. Выражения в адрес лиц, занимающих высшие посты в российском руководстве, были жестокие, как северный ветер. В результате Ельцин заболел насморком и встречу президентов СНГ вообще перенесли.

Боевые действия пришлось полностью перенести на биржу. Собрав последние резервы, Нацбанк бросился в атаку на доллар. Победа была близка, но подлая Московская биржа вовсе закрыла торги по белорусскому рублю, обидевшись на доносившиеся из Минска проклятия. Резервы президента иссякли, и курс снова поднялся к 57 тысячам. Ко всему еще и Газпром сократил поставки в Беларусь газа, а котировки белорусского рубля прекратились на всех биржах СНГ.

Потери в проигранном сражении были подсчитаны на совещании 20 марта, руководство Нацбанка ушло в отставку, сняли одного замминистра, наказали 488 работников торговли. Во главе Нацбанка, управляющего полностью неконвертируемой валютой, поставили строителя. Была еще надежда на российский кредит, заложенный в бюджет российской федерации. Но тут — как гром среди ясного неба — Ельцин распустил правительство. Субъект, у которого можно попросить денег, просто исчез, и когда появится — неизвестно. Белорусских рублей, требующих конвертации, становится все больше, и есть основания ожидать следующего обвала.

Прогнозировать дальнейшие события очень трудно. Одно можно сказать достаточно твердо: жители нашей страны уже в ближайшие две недели победнеют как минимум на 20%. Виновата в этом весна или что другое — пусть решают простые обыватели.

**Виталий МАЛАШКО**

# Чудаки делают настоящую политику

Есть такое расхожее мнение: простой человек, дескать, политикой не занимается, не его это удел. Более того: считается, что политика — это совершенно грязное дело. Что, только тронув рукой, ты пачкаешься весь и гадишь душу.

Так что — лучше не касаться? Неверно данное утверждение. Как раз сегодня политикой могут и должны заниматься «простые люди». Никакие потуги так называемых верхних эшелонов власти не рождают жизнеспособного организма. Экономика задыхается, бьется в конвульсиях. Государство слабеет. Престиж Беларуси страдает: в глазах наших соседей мы уже становимся объектом шуток и анекдотов. Значит, пришло время, настал час вступить в политику простым гражданам.

Для этого нужно многое — и чтобы припекло, и чтобы захотелось. Захочется лишь тогда, когда появится благородный пример, достойный подражания. О таком примере хочу рассказать.

Прохожие, пересекающие площадь Свободы в центре Минска, не один раз замечали пикетчиков, стоящих на углу сквера. Сегодня они там стоят в защиту Андрея Климова, депутата Верховного Совета, подписавшегося за импичмент президенту. Прохожие замечают пикетчиков, останавливаются, разговаривают, интересуются — и вовлекаются в совершенно новые, непривычные, открытые отношения. Каждый это делает по-своему. Один с готовностью подходит к пикету и ставит свою подпись в защиту депутата. Другой, озираясь по сторонам, опасливо берет подписной лист. Третий, якобы не замечая ничего и никого, идет своей дорогой и думает, что его такие проблемы никогда не коснутся.

Политика сегодня делается и на улицах. Она делается нами в разговорах, в активном обсуждении того, что происходит в стране, в аргументах за и против. Политика становится делом каждого. Больше всего поражают немолодые женщины, убеленные сединами, прожившие, наверное, очень нелегкую жизнь, которые первыми откликаются на обращения пикетчиков. Когда слышишь от них такие откровения типа: «Я не отвечаю на телефонные звонки, когда смотрю телевизионные новости. Я должна все дословно знать о политике», — тогда становится легче на душе. Если даже пожилые женщины настолько политизированы, то еще не все потеряно.

Активисты-пикетчики — это не наймиты Запада, как с патологическим постоянством твердит пропаганда. Никто им долларов не платит за стояние в пикетах. Это такие же простые люди, которые уже не могут сидеть дома, тихо жалуясь на свою судьбу. Люди, которым надоело получать копейки на службе, которым надоела серая жизнь вокруг. Другой судьбы они хотят себе и своим детям.

Да, кто-то может посмотреть на них, как на чудаков. Но именно они — чудаки — делают сегодня работу по очистке наших душ. Именно они — чудаки — развенчивают представление о политике только как о закулисных играх верховной власти. Именно они — чудаки — разрушают миф о политике только как о грязном деле.

Грязь появляется там, где дела решаются скрытно. А на улице — здесь все открыто. Смотрите на этих людей, разговаривайте с ними, читайте их плакаты. И вы услышите все, что они хотят сказать. Ничто не скрывается, ничто не делается под ковром. Здесь самая открытая политика, самая честная игра. Здесь каждого видно.

Когда-нибудь, когда все образуется в белорусском государстве, устоится, упрочится, восстановится законодательная власть, — первыми, кто заслужит благодарность, будут пикетчики, демонстранты, митингующие, простые граждане, кто своими усилиями вынянчит здоровое гражданское общество.

**Людмила ГРЯЗНОВА**



*Если даже пожилые женщины настолько политизированы, то еще не все потеряно.*

## *Радкі з лістоў*

**ЛЮДЗІ МЯНЯЮЦЦА.** Яшчэ летась амаль усе нашыя вясковыя бабы казалі мне: «Ну, што ты ў тую палітыку сунешся? Лепш грады даглядай. Тут табе не Мінск — што, на ферме каровам пікет паставіш?». Мужыкі ў грады не пасылалі, але глядзелі, як на дзівачку.

А сёлета ўжо не тое. Усім, відаць, пачынае дапякаць. Во суседка ў мяне неяк пытаецца: «Слухай, Лёля, каб мы тады за Пазьняка прагаласавалі — у мяне пенсія была б мільён сто ці, можа, мільён чатырыста?» Смешнае пытанне, канечне. Але пачалі думаць цёткі — і ўжо добра.

**Леакадзія ВАРАКСА,**
*настаўніца-пенсіянерка,*
*Валожынскі раён*

**ОЧЕНЬ РАДА**, что СВАБОДА снова выходит. Я не занимаюсь политикой — считаю, что это мужское дело (правда, настоящих мужчин в Беларуси осталось мало).

У меня растут дети, и хотелось, чтобы они жили в свободной стране, чтобы не бросали мальчишек в тюрьму за «графити» на стенах. Сейчас трудно, но мы не жалуемся — работаем, крутимся, как белки в колесе, а денег катастрофически не хватает. Даже на полноценное питание, на лечение. Нужно купить обувь сыну, на газовое отопление, на телефон и прочее. Но некоторые живут хуже нас.

Ваша газета нужная, интересная, правдивая, хотя хотелось бы, чтобы больше материала было для души, о душе и т.п.

**Снежана АРТ,**
*г. Брест*

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



НАВІНЫ
27 сакавіка 1998 г., № 31

# Нужен ли оппозиции «план»?

Валерий КАРБАЛЕВИЧ



Белорусская оппозиция пребывает ныне в состоянии острого кризиса. Это означает невозможность и неспособность добиться успехов с помощью применяемых сейчас форм и методов борьбы. Вообще-то слова «кризис» не надо пугаться — это естественное и даже нормальное состояние любой политической силы после поражения. Проблема в том, что кризис затянут, продолжается уже больше года, а выхода не видно.

Хотя оппозиции удалось сохранить остатки Верховного Совета как структуру, способную обеспечить пусть минимальную консолидацию противников нынешнего режима, выиграть информационно-пропагандистскую войну за поддержку мирового общественного мнения, но внутри страны она не смогла дестабилизировать режим, расшатать его. Он выглядит более консолидированным, чем год назад. Не расширяется социальная база противников режима.

Прежде всего бросается в глаза кризис интеллектуальный. Нет концепции, стратегии дальнейшей деятельности с четко сформулированной реальной задачей, путями ее достижения. Более того, нет понимания необходимости такой стратегии. Оппозиция действует как бы по инерции, надеясь на случай, на некую свалившуюся с неба помощь — то ли от Запада, то ли от России.

Главная отличительная особенность белорусской оппозиции состоит в том, что она после ноября 1996 г. стала **внесистемной**. Т.е. основные политические партии оказались насильственно выброшены из институтов власти, лишены возможности использовать институциональные способы борьбы. И победить, вернуться в реальную власть оппозиция может, лишь разрушив существующую политическую систему. Поэтому она вынуждена прибегать к внеинституциональным способам борьбы, выносить ее на улицу (митинги, шествия, пикеты).

Такова объективная реальность, отличающая Беларусь от других стран, в частности от России, где оппозиция, несмотря на радикальную риторику, является системной, стала частью власти (контролирует Госдуму, некоторые регионы), и в борьбе за свой кусок властного пирога ей нет необходимости ломать существующий конституционный строй.

Но проблема в том, что наша оппозиция не сама избрала такой путь, а была насильственно вытолкнута на него президентом. Не удивительно, что значительная ее часть (может быть, кроме БНФ) оказалась морально не готова к такому положению. Особенно это касается парламентской оппозиции, что объясняет ее растерянность, неспособность быстро адаптироваться к изменившимся условиям. Сегодня в стратегии деятельности оппозиции наметились две тенденции. Первая ориентирована на завоевание поддержки большинства населения. Вторая тенденция отдает приоритет максимальной активизации и радикализации того меньшинства, которое является твердым сторонником оппозиции. Разумеется, возможно сочетание обеих тенденций. Но необходимо ясно осознать, что это разные стратегии, и в условиях ограниченности ресурсов оппозиции нужно выбирать одну из них, либо договариваться о разделении труда.

## Взять большинство вряд ли возможно

Рассмотрим плюсы и минусы обеих концепций. Ориентация на завоевание большинства электората основывается на тезисе, что без привлечения новых социальных слоев к движению сопротивления расшатать нынешний режим очень трудно, если вообще возможно.

Однако на этом пути встают, по крайней мере, три проблемы.

Во-первых, почти заблокированы каналы и механизмы воздействия оппозиции на не свой электорат. Независимые газеты читают в основном сторонники оппозиции.

Во-вторых, невозможно привлечение новых социальных слоев на свою сторону с помощью апелляции к политическим проблемам (защита демократии, Конституции, прав человека, свободы СМИ, независимости страны). Для этого необходимо выдвижение на первый план социально-экономических лозунгов.

Но дело в том, что ни одна оппозиционная политическая сила Беларуси не может выступить со **своими** популярными социально-экономическими лозунгами, которые были бы для нее естественными, олицетворяли бы ее внутреннюю природу. Обратимся к примерам.

БНФ, конечно, может апеллировать к вопросам социальной защиты населения. Но все знают, что основная политическая функция Фронта — это национальное возрождение. А социальные проблемы для него являются как бы попутными, дополнительными, подчиненными главной идее.

Лозунги либеральных рыночных реформ, которые предлагает ОГП, в условиях сегодняшней Беларуси тоже не получат поддержки большинства населения. Конечно, либералы могут выступать и выступают с популистскими предложениями, но это не их исконные, натуральные идеи, а чужие, заимствованные у других.

Казалось бы, требования защиты наемных работников, социальных прав граждан являются естественной политической нишей для социал-демократов и коммунистов. Однако парадоксальность ситуации состоит в том, что левые оппозиционные лозунги и призывы к перераспределению социальных благ от богатых к бедным эффективны при правом правительстве. Но очень трудно, оставаясь в рамках здравого смысла, оппонировать слева левому правительству, каковым и является наша исполнительная власть. Сложно требовать у власти забрать еще больше у богатых, поскольку богатые, в основном, уже разорены. Говоря по-другому, ниша социал-демократов и коммунистов занята Лукашенко. Поэтому, чтобы каким-то образом присутствовать на политической сцене, социал-демократам приходится делать акцент на национальную идею. А коммунистам (ПКБ) пришлось сделать чуть ли не главным своим лозунгом защиту демократии, что совершенно не естественно для данной политической силы. Это явилось одной из причин раскола компартии и уже в последнее время породило проблему Щукина.

В-третьих, симпатии населения к Лукашенко основываются не на поддержке его социально-экономической политики. И объективные данные (материалы статистики), и субъективные (социологические опросы) данные свидетельствуют о том, что уровень жизни большинства электората за три последних года, по крайней мере, не улучшился. Иначе говоря, рейтинг Лукашенко оторвался от социально-экономического положения в стране. И расчеты на то, что углубление кризиса существенно изменит отношение населения к президенту, вызывают сомнения.

Едва ли не главная проблема оппозиции состоит в том, что поддержка Лукашенко большинством его электората основана на харизме президента. Он полностью перенес свои отношения с электоратом из сферы рационального (т.е. разума, логики, здравого смысла) в сферу иррационального (эмоций, чувств, предрассудков и мифов). В этой области с ним соревноваться очень сложно. Этот феномен хорошо проанализировал В.Подгол. Развенчание харизмы — задача исключительной сложности.

В связи с этим вызывает сомнение выдвижение лозунга «Бороться не против Лукашенко, а за общество». Пока население твердо верит президенту, он может легко манипулировать общественным мнением, дискредитировать любые идеи и политические силы.

## Воевать за большинство среди меньшинства

Вторая тенденция в стратегии оппозиции сводится к тому, что не нужно ставить в качестве ближайшей стратегической задачи завоевание электората Лукашенко и приобретение поддержки большинства населения. Потому что победить президента с помощью выборов или референдума невозможно. Во-первых, большинство поддерживает Лукашенко. Во-вторых, в условиях нынешнего режима расчитывать на свободные выборы не приходится. Они будут недемократическими, неравными, несправедливыми.

В-третьих, по конституции 1996 г. функции парламента настолько ограничены, что он бесправен и беспомощен перед президентом. Участие в деятельности представительных органов власти может использоваться, в основном, как способ расшатывания режима.

Это в демократическом обществе судьбу страны определяет большинство населения. В переходном, трансформационном обществе на переломных этапах его развития исторический выбор делает активное меньшинство. В качестве самых очевидных примеров можно вспомнить и октябрь 1917 г., и август 1991 г., когда во время путча ГКЧП 100-200 тысяч вышедших на улицу москвичей решили судьбу 300-миллионной страны.

Поэтому в рамках такой стратегии ближайшей задачей оппозиции должно стать завоевание большинства среди социально активной, политизированной части общества, элиты, достижение решающего перевеса в Минске, радикализация своих сторонников. Президент Армении Тер-Петросян был вынужден уйти в отставку потому, что потерял поддержку элиты.

Благоприятствующим фактором является то, что электорат Лукашенко хотя и многочисленный, но представляет социально пассивную часть общества. Он не способен на активные политические действия в поддержку своего кумира. Все митинги с портретами президента были проведены только благодаря мобилизационным возможностям государственного аппарата. Людей привозили на автобусах по разнарядке, установленной для предприятий и учреждений.

Однако на пути реализации этой стратегии встают две проблемы. Прежде всего радикализация оппозицией своих сторонников ведет к их еще большему отрыву, а возможно, и изоляции от основной массы населения. Радикализм пугает большинство обывателей. Для массового сознания плохая стабильность почти всегда лучше, чем обещающая светлое будущее революция. И президент под лозунгом наведения порядка и поддержания стабильности получает от большинства карт-бланш на репрессии против оппозиции.

Во-вторых, оппозиция выдохлась. Акции протеста минувшей осенью не смогли собрать больше 5 тыс. человек. Властям удалось нейтрализовать молодежь — ударную силу сопротивления.

## Третья сила

С конца лета прошлого года проявилась новая тенденция в движении сопротивления. Оно изменилось не только по форме, но и по содержанию. Произошел спад политической борьбы против режима и резкое возрастание морального, правозащитного сопротивления. Акции в защиту политзаключенных (Шеремета, Шидловского, Лабковича) преобладали. Начиная с августа, большинство их возглавляли не политические организации, а журналисты, правозащитные структуры. Хартия-97 — это сопротивление моральное, интеллектуальное. А оно по самой своей природе не может быть массовым, даже в среде интеллигенции. Показательной в этом смысле стала встреча Лукашенко с представителями творческих союзов в конце прошлого года — через несколько дней после избиения кинорежиссера Хащеватского. Это была «проверка» морального здоровья белорусской интеллигентской элиты, «совести нации». Она показала, что болезнь зашла очень далеко.

В условиях, когда большинство партий оказалось в полуподполье, функция политической оппозиции в какой-то мере перешла к независимым СМИ. Они являются сегодня средством коммуникации, поддерживают духовную и интеллектуальную связь между реальными и потенциальными противниками режима. С их закрытием о существовании и деятельности оппозиции будут знать лишь сами ее активисты.

Таким образом, оппозиция оказалась перед явственной угрозой быть вытесненной из сферы политической борьбы в узкие рамки диссидентства советского образца. В этом контексте и нужно рассматривать раскол оппозиции по вопросу о роли и дальнейшей судьбе остатков Верховного Совета. Его руководство исходит из тактики пассивного ожидания благоприятного развития событий. Тактика ОГП (объявление нынешнего собрания депутатов легитимным парламентом) ориентирована на превращение Верховного Совета в детонатор, призванный взорвать ситуацию, искусственно ускорить ход событий.

## Что делать? Работать головой!

Что представляется самоочевидным и минимально необходимым в сложившихся условиях? Прежде всего нужно если не объединение оппозиции, то хотя бы координация действий. Сейчас она существует, да и то частично, лишь при организации уличных акций. ОГП в одиночку пытается легитимизировать Верховный Совет, БНФ объявляет сбор подписей для отставки Лукашенко, энтузиасты собирают подписи под Хартией-97.

Непременным условием успехов противников режима является отказ от пренебрежения интеллектуальной работой. Может быть, единственным преимуществом оппозиции является то, что на ее стороне больше интеллектуальных сил. Пока этот капитал она безбожно разбазаривает. Необходимо разработать стратегию деятельности, говоря словами Зимовского, «план», который позволил бы найти уязвимые места в политике власти и их максимально использовать.

Дело в том, что президент периодически «подставляется». В силу особенностей режима и личных качеств Лукашенко, ему нужны регулярные подтверждения легитимности, демонстрация поддержки народа. Поэтому он всё будет инициировать новые политические кампании: референдумы, «интеграция», «борьба с преступностью и коррупцией», «заговор оппозиции» и т.д. Но любая кампания — это всегда в какой-то мере провоцирование политического мини-кризиса. Т.е. власти постоянно идут на определенный, пусть минимальный риск.

Например, кампания «борьбы с коррупцией» вылилась в репрессии против номенклатуры, поставила ее в положение более уязвимое, чем то, в котором оказалась оппозиция. Быть сегодня в Беларуси руководителем — самая опасная профессия. Террор контрольных органов привел к тому, что государственные и хозяйственные руководители оказались по своему социальному и правовому статусу в ситуации 30—40-х гг. со всеми вытекающими отсюда последствиями.

Оппозиция не увидела этих перемен в политической обстановке. С конца 80-х гг. номенклатура была главным противником демократов. Сейчас они могут стать союзниками.

Другой пример. Введенные с начала года новые правила уплаты налога с совокупного годового дохода затронули в основном электорат оппозиции и предоставили ей редкий по нынешним временам шанс возглавить движение протеста, трансформируя материальные интересы людей в политические требования. Ибо в условиях авторитарного режима любой протест неизбежно приобретает политический характер. Однако оппозиция в очередной раз «проспала». Она, как обычно, жила своей собственной напряженной внутренней жизнью: осуждала возможность участия в будущих парламентских и президентских выборах, собирала подписи под Хартией-97 и т.д. А между тем предприниматели в Гродно приняли решение о создании собственной партии.

Всякая оппозиция хоть чего-нибудь стоит, если она умеет защищаться. Тем более наступать.



*Кто они — убежденные сторонники или пришли на митинг за компанию?*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

